НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня!
М. Багдановіч.

№ 11 (157) ЛІПЕНЬ 2013 ГОД

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## А ЦІ БЫЎ ЭКАНАМІЧНЫ ЦУД?

**Беларускаму “эканамічнаму цуду” надыходзіць канец. Цяперашняя сітуацыя на Беларусі пагражае падзеннем узроўню жыцця, павышэннем цэн, ростам беспрацоўя і масавай эміграцыяй беларусаў у больш развітыя краіны. І адпаведна разам з канчатковай ліквідацыяй грамадзянскіх правоў і сацыяльных гарантый.**

Усё часцей з месцаў паступаюць паведамленні аб паглыбленні эканамічнага крызісу. Прычым крызіс носіць сістэмны характар, а не яго лакальныя праявы. І на дзяржаўным узроўні, і ў прыватных размовах грамадзян усё болей можна пачуць аб недахопе грошай і матэрыялаў на самыя неабходныя патрэбы ў паўсядзённым жыцці. У краіне катастрафічна не хапае фінансавых сродкаў, прадукты ў крамах выдаюць на пазыку. А заработную плату на прадпрыемствах пачалі выдаваць то фаршам, то каўбасой – разлік ідзе больш на паперы, чым рэальнымі грашыма. У Пінскім раёне кіраўнікі гаспадаркі “Маладая гвардыя” дадумаліся выдаваць палучку калгаснікам…дохлымі цялятамі. Гэты факт прызнала выданне “СБ. Беларусь Сегодня.” Здохшыя жывёліны выпісваліся работнікам у якасці прэміі, каб схаваць падзёж.

Нягледзячы на тое, што кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка загадаў старшыні Нацбанка прытрымлівацца стабільнага курса рубля, давер насельніцтва да беларускіх грашовых знакаў зменшыўся. Старшыня Нацбанку Беларусі Надзея Ермакова заявіла, што насельніцтва актыўна здымае ашчаджэнні з укладаў у беларускіх рублях і пераводзіць іх у валютныя. З 1 па 10 ліпеня гэтага году 1 трлн. рублёў быў зняты з рублёвых укладаў, і гэткая ж сума ў эквіваленце прыйшла на валютныя ўклады. Апроч таго, насельніцтва купіла яшчэ 130 млн. даляраў, якія засталіся на руках.

Чыстыя страты беларускіх прадпрыемстваў за студзень-май выраслі ў 1,7 разы. Прыбытак ад рэалізацыі паменшыўся на 25,9% да 36,4 трлн. рублёў, чысты прыбытак скараціўся на 35% да 22,6 трлн. рублёў. Са знакамітых беларускіх кампаній у рэйтынгу дваццаці самых стратных апынуліся вытворца тэлевізараў – ААТ "Віцязь" – і вытворца піва – ААТ "Крыніца": яны занялі сёмае і восьмае месцы адпаведна. За І квартал 2013 кампанія "Віцязь" спрацавала ў мінус на $ 2,9 млн. у эквіваленце, а "Крыніца" – на $ 2,8 млн.

Прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч паведаміў, што складскія запасы ў Беларусі за чэрвень гэтага года нібыта знізіліся на 1,2 трыльёна рублёў. Як бачна, склады разгрузіць паранейшаму не ўдалося, калі улічыць, што ўсяго гатовай прадукцыі скапілася аж на 30 трыльёнаў. Наогул, беларуская эканоміка запавольваецца як мінімум чацвёрты месяц запар. Паводле апошніх дадзеных Белстата, рост ВУП па выніках першага паўгоддзя склаў усяго 1,4%. Іншымі словамі, увесь сакавік, увесь красавік і частку траўня заводы працавалі выключна на склад. Ніякія заклінанні ўраду “купляйце беларускае” не дапамагаюць. І грозныя заявы Аляксандра Лукашэнкі “адкруціць галовы чыноўнікам” таксама. Складскія запасы, асабліва тэхнікі машынабудаўнічых прадпрыемстваў, б'юць усе рэкорды. Праўда, правадыр “рынкавага сацыялізму” прыдумаў, куды падзець тэхніку. Яе трэба тэрмінова аддаць у калгасы ў доўг, ды яшчэ са скідкай на 30%. Дарэчы і даўгі сельскай гаспадаркі перавысілі адзнаку ў 4 млрд. даляраў. За апошнія 10 гадоў у ляжачыя калгасы ўсадзілі каля 40 млрд. даляраў, а ў сталічных магазінах ляжыць польскае, нямецкае мяса, намнога таннейшае за беларускае.

Усе ведаюць, што савецкая мадэль эканомікі трымалася выключна на расійскіх датацыях ды крэдытах, танным газе і нафце. Крамлёўскія дыктатары, каб не пусціць беларусаў у Еўропу, шчодра фінансавалі эканамічны валюнтарызм беларускай наменклатуры. Аднак зараз і самой Расіі рэсурсаў стала не хапаць, да таго ж ім ужо надакучылі бясконцыя просьбы Лукашэнкі даць грошай. Даўжнікі не бываюць вечнымі. Таму ў Маскве паставілі жорсткія умовы: хочаце грошай і таннага газу – здавайце дзяржаву ў Расею. Адзіная тэрыторыя, адзіная гаспадарка, адзіны расейскі рубель. Аднак калі Лукашэнку пазбавяць магчымасці самому друкаваць грошы –ён адразу страціць неабмежаваную ўладу. Хто дасць гарантыі, што Крэмль адразу ж не пазбавіцца ад адыёзнага правадыра, прызначыўшы на пасаду кіраўніка РБ больш “ліберальнага” прэзідэнта?

Па ўсяму відаць, што нейкі стабілізацыйны крэдыт у бліжэйшы час Лукашэнку ўсё ж такі падкінуць для падтрымкі яго бюракратычнага апарату. Трэба карміць наменклатуру –народ няздольны ўтрымліваць процьму чыноўнікаў, якіх ужо пачалі скарачаць. Але болей шалёныя грошы, як тое было ў папярэднія 19 гадоў даваць ніхто не будзе. Таму ўраду давядзецца эканоміць на самым неабходным, а народу яшчэ тужэй зацягнуць паясы.

**Аляксандр Шчамлёў**

ЭКАНАМІЧНАЕ СТАНОВІШЧА

## НЯЎДАЛЫ СТАРТ ШУМІЛІНСКІХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ

**Прадпрыемствы і арганізацыі народнай гаспадаркі раёна дапусцілі зніжэнне асноўных паказчыкаў эканамічнага развіцця.**

Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў асноўныя сацыяльна-эканамічныя паказчыкі рэгіёнаў Беларусі за пяць месяцаў 2013 года. Як высветлілася, для прадпрыемстваў Шумілінщчыны год пачаўся няўдала. Асноўныя эканамічныя паказчыкі раёна значна пагоршыліся ў параўнанні з аналагічнымі дадзенымі мінулага года. Калі ў студзені- траўні 2012 года быў прыбытак у 10 513 мільёнаў рублёў, то ў 2013 на канец траўня бягучага года ён саставіў толькі 3 754 млн. рублёў. Праўда, удзельная вага стратных арганізацый засталася на аднолькавым узроўні – 22,7%. Усяго па Віцебскай вобласці колькасць стратных прадпрыемстваў павялічылася: са студзеня-траўня 2012 года – з 81 адзінак да 117 аналагічнага перыяду ў 2013 годзе. Хаця статыстыка сцвярджае, што на Шумілінщчыне за першыя пяць месяцаў зменшылася колькасць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных: з 85 да 84 чалавек. Пры гэтым узровень афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных склаў 1% пры сярэднеабласным паказчыку 0,7%. Адначасова колькасць занятага насельніцтва ў эканоміцы раёна за год зменшылася на 268 чалавек.

За першыя месяцаў на прадпрыемствах Шумілінщчыны упала рэнтабельнасць прадаж і вырасла запазычанасць плацяжоў па ўсіх параметрах. Вытворчасць прадукцыі сельскай гаспадаркі да адпаведнага перыду папярэдняга года знізілася са 105,% да 95,2%. Рэнтабельнасць прадаж у сельскагаспадарчай галіне упала з 12,6% да 2,6%. У прамысловасці з -4,4% да -4,7%. Агульны паказчык рэнтабельнасці прадаж таксама зменшыўся: за першыя пяць месяцаў 2012 года ён быў на узроўні 3,6%, а ў гэтым ужо -1,4%.

У любым выпадку суб'екты гаспадарання паказалі сябе нядзеяздольнымі па грашова-крэдытным параметрам. Да прыкладу, пратэрмінаваная дэбіторская запазычанасць арганізацый раёна (на канец перыяду)вырасла з 6 277 мільёнаў рублёў у 2012 годзе да 10 771 мільёнаў рублёў у 2013 годзе. У той час як крэдыторская таксама павялічылася амаль удвая, адпаведна з 65 538 млн. руб. да 110 700 млн. руб. Пры гэтым пратэрмінаваная крэдыторская запазычанасць па падатках, зборах і сацыяльнаму страхаванню павялічылася больш, чым у пяць разоў: з 1 904 млн. рублёў мінулага перыяду да 13 064 млн. рублёў.

Несвоечасова разлічваюцца прадпрыемствы па крэдытам і пазыкам – пратэрмінаваная запазычанасць у студзені-траўні дасягнула да 30 530 млн. руб (на канец перыяду 2012 года было 26 100 млн. руб.). Як высветлілася, арганізацыі Шумілінщчыны ўсё больш залазяць ў даўгі за паліўна-энергетычныя рэсурсы. За мінулагодні перыяд студзень- травень пратэрмінаваная крэдыторская запазычанасць за паліва і электраэнергію складала 31 037 млн. руб. А сёлета на пяты месяц першага паўгоддзя ўжо 33 652 млн. руб.

Адметна тое, што намінальная сярэдняя заработная плата ў раёне, налічаная за студзень-травень гэтага года склала 3 мільёны 182 тысячы рублёў . Што безумоўна апусціла раён на перадапошняе месца ў спісе рэгіёнаў вобласці. Ніжэй толькі Браслаўскі раён. Дарэчы, сярэдняя заработная плата на Віцебшчыне за студзень-травень склала 4 мільёны 183 тыс. руб – на адзін мільён больш, чым у Шумілінскім раёне. Як бачна, мінулагодня абяцанні ўладаў пра заробкі ў 500 долараў і ў гэтым годзе засталіся на паперы. Як і пажаданні кіраўніцтва раёна вывесці Шумілінщчыну ў эканамічныя лідэры вобласці.

**Я. Вайтовіч**

ПРЫВАТНЫ БІЗНЭС

## У ШУМІЛІНЕ ПРАЦУЕ ПРЫВАТНАЕ ТАКСІ

**Першаадкрывальнікам новай паслугі насельніцтву стаў мясцовы прадпрымальнік Аляксандр Рубін, які заснаваў таварыства "Рубінзон-Сервіс".**

Аляксандр Рубін яшчэ ў жніўні мінулага года зарэгістраваў таварыства з абмежаванай адказнасцю пад назвай “Рубінзон-Сэрвіс”. Спачатку працаваў сам за рулём як індывідуальны прадпрымальнік, а затым паступова набываў дадатковыя адзінкі транспарту, наймаў на работу іншых кіроўцаў. На сённяшні дзень калектыў прадпрыемства налічвае чатырох кіроўцаў і бухгалтара.

Цяпер жыхары горпасёлка ўжо не здзіўляюцца, калі бачаць легкавік з шашачкамі. І калі раней ездзіць на таксі лічылася раскошай, то сёння гэта хутчэй сродак перамяшчэння. Тым больш, што жыхарам нашага раёна не заўсёды прадастаўлена магчымасць трапіць на рэйсавы аўтобус, пад'ехаць да паяздоў, якія прыбываюць на станцыю “Шуміліна”.

Паслугі гэтага бізнэсу запатрабаваныя. Даімчаць на легкавушцы можна ў суседнюю вёску, Віцебск, Полацк, нават вазілі кліентаў у Мінск, іншыя гарады. Расцэнкі прымальныя, а калі яшчэ і спадарожнікі знойдуцца, у накладзе пасажыры не будуць. Па райцэнтры паездка каштуе 20 тысяч рублёў. Для больш працяглых маршрутаў тарыф наступны: 4500 рублёў за адзін кіламетр. Для пенсіянераў існуе скідка на 15%. Таксі працуе ў рэжыме ад 7 гадзін раніцы да 3 гадзін ночы. Заказаць аўтамабіль можна і для сямейных урачыстасцяў або адпачынку па тэлефоне 222-06-06.

**Алесь Прыбярэжны**

## Аб'ява

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.

*********

Рэдакцыя « Світанка » змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.

*********

Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанак».

*********

Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам

## “СВІТАНАК” У ІНТЭРНЭЦЕ

Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html , што у каталагу “Пэрыёдыка” для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.

ЭПІДЭМІЯ

## ВЕТСЛУЖБА ПАЧАЛА ВАКЦЫНАЦЫЮ СВІНЕЙ

**Спецыялістамі Шумілінскай райветстанцыі праводзіцца вакцынацыя супраць класічнай (еўрапейскай) чумы свіней на прыватных падворках.**

Масавая вакцынацыя свіней на падворках прыватных гаспадароў пачалася ў сувязі з успышкай на Беларусі афрыканскай чумы свіней. Прышчэпкі ад класічнай чумы будуць зроблены ва ўсіх асабістых падсобных гаспадарках, якія знаходзяцца ў дзесяцікіламетровай акрузе вакол свінагадоўчага комплексу Добрына. У гэтай зоне размешчаны вёскі Добрына, Лоўша, Мікіціха і Сіроціна.

Тым часам у Маскве намеснік кіраўніка Расельгаснагляду Мікалай Уласаў заявіў, што афрыканская чума свіней распаўсюдзілася амаль па ўсёй еўрапейскай тэрыторыі Расіі. У некаторых рэгіёнах ёсць пагроза закрыцця галіны свінагадоўлі. "Афрыканскай чуме свіней мы прайгралі фактычна ўсю еўрапейскую частку Расіі. Уся еўрапейская частка або ўжо заражана, або пад пагрозай заражэння. І пакуль у федэральных і рэгіянальных улад не памяняецца стаўленне да гэтай праблемы, нічога не зменіцца"

У нашым раёне пакуль што сітуацыя стабільная, афрыканскай чумы свіней на Шуміліншчыне няма. Тут не трэба блытаць яе з класічнай (еўрапейскай чумой), супраць якой існуе вакцына і робяцца прышчэпкі. Але меры барацьбы з афрыканскай чумой не распрацаваныя – вакцыны няма, а лячэнне хворых свіней забаронена. Таму гаспадарам варта захоўваць шэраг прафілактычных мераў.

Там, дзе утрымліваюцца свінні, не лішнім будзе абмежаваць наведванне падворкаў іншымі людзьмі. Асаблівая ўвагу трэба надаць кармам. Рэкамендуецца набываць камбікормы для свіней у гандлёвых сетках Белкаапсаюз, дзе гарантавана іх якасць, ці непасрэдна ў фірменных гандлёвых сетках арганізацый камбікормавай прамысловасці рэспублікі, дзе кормы праходзяць належную праверку.

Раённая ветслужба просіць жыхароў адразу ж звяртацца ў лячэбніцу , калі ў іх на падвораку захварэлі свінні, нават без характэрных прыкмет афрыканскай чумы, такіх як павышэнне тэмпературы, дыхавіца, кашаль, з'яўленне на скуры чырвона-фіялетавых плям. Тэлефон ветслужбы 4-98-26.

**А. Прылуцкі**

ЗДАРЭННІ

## КІРОЎЦА-ЗУХ, ЯКІ РАЗБІЎСЯ Ў ШУМІЛІНЕ, БЫЎ МОЦНА П'ЯНЫ

**Следчы камітэт запэўнівае, што загінуўшы праз пераслед ДАІ кіроўца быў нецвярозы.**

У біялагічных пробах кіроўцы, які загінуў у Шуміліна, выяўлена 3,2 прамілеалкаголю, паведаміла БелТА афіцыйная прадстаўніца ўпраўлення СК РБ у Віцебскай вобласці Іна Гарбачова.

«Паводле вынікаў праведзеных экспэртных даследаванняў у біялагічных пробах, узятых у вадзіцеля аўтамашыны «Рэно-Лагуна», было выяўлена 3,2 праміле алкаголю, што адпавядае цяжкай ступені ап'янення», - сказала Іна Гарбачова.

28 чэрвеня блізу адзінаццаці гадзін вечара жыхар Полацкага раёна на аўтамашыне «Рэно-Лагуна» з высокай хуткасцю імчаўся па аўтадарозе Віцебск-Полацк, накіроўваючыся ў бок Шуміліна.

З мэтай спынення парушальніка ў Шуміліна на скрыжаванні вуліц Луначарскага і Юбілейнай на асветленым участку дарогі быў выстаўлены заслон у выглядзе грузавой аўтамашыны «ДАФ» з паўпрычэпам. Аднак пры выездзе на гэтае перакрыжаванне кіроўца не спыніўся і, сутыкнуўшыся з паўпрычэпам, атрымаў цялесныя пашкоджанні, ад якіх на шляху ў бальніцу скanaў.

**С. Горкі**

КРЫМІНАЛ

## КРАДЗЁЖ РОВАРА

**З незамкнутага падвала ў пенсіянеркі скралі дарожны ровар**

У Шумілінскі РАУС звярнулася пенсіянерка 1956 года нараджэння с заявай аб ты, што неустаноўлены зламыснік здзейсніў з незачыненнага падвальнага памяшкання дома крадзёж дарожнага ровара. Нанесены ўрон склаў 500 тысяч рублёў. Шумілінскія аператыўнікі высветлілі, што злодзеям аказаўся рабочы, 1985 года нараджэння. Супраць мужчыны ўзбуджана крымінальная справа па арт. 205 ч. 1 КК.

**Па матэрыялах УВД**
**Алесь Шумскі**

## БРАКАНЬЕРЫ ЗАТРЫМАНЫЯ

**11 ліпеня на возеры Мурожніцкае ў Шумілінскім раёне былі затрыманыя браканьеры з забароненымі прыладамі лоўлі.**

Работнікам Віцебскай аблінспекцыі было аказана непадпарадкаванне двума парушальнікамі, якія рыбачылі стаўнымі сеткамі на возеры Мурожніцкае ў Шумілінскім раёне. Пры затрыманні яны не выканалі патрабаванне дзяржінспектара заставацца на месцы, спрабавалі ўцячы, выкінуць забароненыя прылады лоўлі і незаконна здабытую рыбу, аднак былі спыненыя. У браканьераў канфіскаваныя 3 сеткі агульнай даўжынёй 125 м і 14 кг азёрна-рачной рыбы. У дачыненні да абодвух складзеныя пратаколы адразу па двух артыкулах Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях: па арт. 23.4 - непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў - і па ч.1 ст.15.35 - здабыча рыбы забароненымі прыладамі, спосабамі і прыёмамі.

**Паводле прэс-службы Дзяржінспекцыі**

## ШЭСЦЬ ЗЛАЧЫНСТВАЎ ЗА АДЗІН ТЫДЗЕНЬ

**Толькі за адзін тыдзень у раёне узбуджана шэсць крымінальных справаў.**

На рабочай нарадзе ў райвыканкаме, якая адбылася першага ліпеня, начальнік аддзела ўнутраных справаў Вадзім Мядзвецкі адзначыў, што ў Шумілінскім раёне за апошні тыдзень было распачата шэсць крымінальных справаў.

У гэтым годзе ўжо зарэгістравана 118 злачынстваў, у тым ліку 54 крадзяжы. Большасць крадзяжоў, як правіла, раскрываецца. Найбольш крадуць пакінутыя без нагляду ровары. Да прыкладу, у чэрвені за адзін тыдзень скралі тры двухколавыя "машыны".

У два разы павялічылася колькасць цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў. Калі летась іх было шэсць, то за адпаведны перыяд бягучага года было зарэгістравана 13 выпадкаў. Сёлета здзейснена два забойствы. Дагэтуль не раскрыта забойства пенсіянеркі з вёскі Бараноўскія.

У тры разы вырасла падлеткавая злачыннасць. У мінулым годзе за пяць месяцаў было два злачынствы, а ў гэтым годзе ўжо шэсць. Двое падлеткаў былі накіраваны ў лячэбна-выхаваўчую ўстанову закрытага тыпу.

**Алесь Шумскі**

ФУТБОЛ

## ШУМІЛІНСКІЯ ФУТБАЛІСТЫ ПЕРАМАГЛІ ВІЦЯБЛЯН

**У райцэнтры адбыўся футбольны матч. У рашаючым паядынку ФК "Шуміліна" атрымаў перамогу над віцебскай камандай "Ураджай" з Ноўкі**

Лік сустрэчы ў першым тайме адкрыў на 30-й хвіліне Алег Шульжынскі. На апошняй 45-й хвіліне наш капітан Аляксандр Янкевіч замацаваў поспех пасля трапнага удару па варотах гасцей – 2:0.

Адзіны гол ў адказ госці правялі толькі напрыканцы другога тайма. Атакі "Ураджаю" былі настолькі інтэнсіўнымі, што віцебляне літаральна naселі на вароты шумілінскіх футбалістаў. Аднак шумілінцы ўпартаабараняліся, і з пенальці Аляксандр Архіпаў забіў яшчэ адзін мяч у вароты гасцей. Гэтым разам перавага ФК "Шуміліна" была бясспрэчнай. Гульня закончылася нашай перамогай з лікам 3:1.

**Алесь Шумскі**

## БЛІСКУЧАЯ ПЕРАМОГА НАШЫХ СПАРТОЎЦАЎ

**Шумілінскія футбалісты здабылі яшчэ адну перамогу. Сустрэча ФК "Шуміліна" і "Плоскае" Талочын завяршылася з разгромным лікам 6:1 на карысць нашых землякоў**

На гэты раз важную сустрэчу чэмпіянату вобласці па футболу шумілінцы праводзілі ў гасцях. Наша каманда валодала ініцыятывай увесь матч, мэтанакіравана ішла наперад. Актыўна гулялі ў першай палове тайма Алег Шульжынскі, Станіслаў Прасветаў, Андрэй Шантур. Першы гол з пенальці забіў Ігар Дашкевіч. Нашы сапернікі за 45 хвілін прапусцілі ў свае вароты пяць мячоў.

Увогуле, у другой палове гульні талачынцы ішлі ў атаку няўпэўнена, было бачна, што галоўнае для іх - не дапусціць нашых нападаючых да варот. Другі тайм для іх стаў больш удалым, але нашай камандзе ўдалося замацаваць поспех, забіўшы яшчэ адзін гол. На апошніх хвілінах фартуна павярнулася і да каманды "Плоскае" - ім удалося забіць адзін мяч у вароты шумілінцаў. Перамога нашых спартоўцаў была бліскучай.

**Алесь Шумскі**

З ЗАЛЫ СУДА

## МАСКВІЧКА, ВІНАВАТАЯ Ў ГІБЕЛІ КІРОЎЦЫ, АСУДЖАНА ЎМОЎНА

**Уступіў у законную сілу прысуд масквічцы Галіне Камаровай, па віне якой у ДТЗ, што адбылося ў Шумілінскім раёне, загінуў беларускі кіроўца.**

**Масквічка, па віне якой у ДТЗ загінуў беларускі кіроўца, атрымала ўмоўны тэрмін**

Праваахоўнымі органамі Рэспублікі Беларусь Камарова абвінавачвалася ў тым, што ў студзені 2011 года кіруючы аўтамабілем «Honda CR-V», на аўтатрасе Віцебск-Полацк, пры выкананні манеўру абгону парушыла правілы дарожнага руху і здзейсніла сутыкненне з аўтамабілем "Opel Frontera ", кіроўца якога ад атрыманых цяжкіх цялесных пашкоджанняў памёр.

Расіянка пасля здзяйснення злачынства пакінула тэрыторыю нашай краіны. У верасні 2012 года крымінальная справа па абвінавачванні Камаровай ў здзяйсненні гэтага злачынства было прадстаўлена кампетэнтнымі органамі Беларусі ў Генеральную пракуратуру Расійскай Федэрацыі для ажыццяўлення крымінальнага праследу абвінавачванай па частцы 2 артыкула 317 (парушэнне правілаў дарожнага руху або эксплуатацыі транспартных сродкаў, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека) КК Рэспублікі Беларусь.

4 Сакавіка 2013 г прысудам Ізмайлаўскага раённага суда Масквы Камарова прызнана вінаватай у здзяйсненні дадзенага злачынства і асуджаная на 3 гады пазбаўлення волі ўмоўна, з пазбаўленнем права кіраваць транспартным сродкам на гэты ж тэрмін. Зараз прысуд уступіў у законную сілу.

Своечасовае прыцягненне вінаватай асобы, якое магло застацца беспакараным, да крымінальнай адказнасці стала магчымым у выніку аператыўнай работы супрацоўнікаў УУС па ВАО ГУ МУС Расеі па Маскве і належнай арганізацыі нагляду за ходам і вынікамі расследавання дадзенай крымінальнай справы супрацоўнікамі пракуратуры Усходняй адміністрацыйнай акругі, паведамляе прэс-служба маскоўскай пракуратуры.

**Народныя Навіны Віцебска**

НАШ СВЕТ

# БЕЛАРУСЫ СЬВЕТУ НАГАДАЛІ ПРА ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ

**У Менску завяршыўся Шосты зьезд беларусаў сьвету, арганізаваны Згуртаваньнем беларусаў сьвету «Бацькаўшчына». У заключных дакумэнтах форуму ўдзельнікі заклікалі ўлады краіны бараніць нацыянальную мову і культуру, падтрымліваць беларусаў у замежжы і вызваліць палітвязьняў у Беларусі.**

Другі дзень Шостага зьезду беларусаў сьвету распачаўся з таго, што дэлегаты распавядалі пра досьвед жыцьця і дзейнасьці беларускіх супольнасьцяў у сваіх краінах, а таксама аб праблемах сувязі беларусаў замежжа з уладамі Беларусі. Сярод іншых — кіраўніца беларускай супольнасьці ў польскім Гданьску Алена Глагоўская: «Для беларусаў Польшчы цяпер ёсьць асноўная праблема. Ня ведаю, чым гэтак не дагадзілі ўладам Беларусі, але ня ўсе тут ёсьць. Да прыкладу, мой сябар Яўген Вапа — старшыня беларускага зьвязу ў Польшчы, галоўны рэдактар газэты „Ніва“ і дырэктар „Радыё Рацыя“ — неўязны ў Рэспубліку Беларусь. Ягоная непрысутнасьць тут шмат пра што кажа. І ўезд беларусаў Польшчы, якія цяпер тут, таксама да апошняга моманту стаяў пад знакам пытаньня. Калі чалавек увесь дзень мусіць правесьці ў консульстве ў чаканьні таго, што нехта дасьць дазвол паехаць на Шосты зьезд беларусаў ці не, то гэта адназначны паказчык стаўленьня да беларусаў за мяжой, у гэтым выпадку — у Польшчы».

Пра тое, што афіцыйныя ўлады дзеляць беларусаў на «сваіх» і «чужых» ня толькі ў Беларусі, але і за межамі краіны, казалі многія прадстаўнікі нацыянальных суполак. У тым ліку — прэзыдэнт таварыства беларусаў Эстоніі Ніна Савінова: «Да прыкладу, цягам апошніх трох гадоў я адчуваю такую зьнявагу з боку беларускага дыпляматычнага корпусу ў Эстоніі, што я зьвярнулася да Лукашэнкі з запытам: ці гэта ёсьць пазыцыя дзяржавы да беларусаў замежжа? Гэта жах, проста жах! Яны выяжджаюць на шыкоўных аўтамабілях, маюць добры аклад, маюць вялікі штат супрацоўнікаў. Дык чаго вы сюды прыехалі? Адседзець свой тэрмін і паглядзець, у якую багацейшую краіну паехаць? Ведаеце, гэта гвалт, проста гвалт».

Адначасна прадстаўнікі беларускіх суполак з Крыму і Малдовы выказалі падзяку афіцыйным беларускім уладам, прамаўляючы па-расейску, а таксама ўхваляючы расейска-беларускае двумоўе. Былы старшыня Вярхоўнага Савету і ўдзельнік ранейшых зьездаў беларусаў сьвету Станіслаў Шушкевіч адзначыў, што ў гэтым сэнсе цяперашні зьезд стаўся адрозным ад усіх папярэдніх: «Я ў пэўнай роспачы, бо тут вельмі шмат людзей, якія ня ведаюць, што адбываецца ў Беларусі. У нядаўнім мінулым яны — этнічныя беларусы, і сталі гэткімі антыбеларускімі, што мне сорамна за іх. Выніковыя дакумэнты падрыхтаваныя нядрэнна, але і тут ёсьць недахопы. Бо калі, да прыкладу, пішацца пра вызваленьне палітвязьняў, але ня пішацца пра тое, што іх неабходна цалкам рэабілітаваць, то гэта азначае, што і тут, на месцы, мы забыліся, хто і чаму пакуты за нас прымае. А мы сядзім, праводзім зьезд і пляскаем у далоні трывіяльным і прымітыўным выступам. Мне падаецца, што трывіяльшчыны на гэтым зьезьдзе больш, чым на ўсіх папярэдніх разам узятых».

У другі дзень зьезду працавалі і сэкцыі, якія мелі на мэце выпрацоўку адзінага падыходу да вырашэньня шэрагу праблемаў, характэрных як для нацыянальных суполак замяжой, так і для беларусаў на радзіме: асыміляцыя, пераемнасьць пакаленьняў, адсутнасьць дзяржаўнай падтрымкі. Акрамя праблемаў, удзельнікі форуму дзяліліся і аптымізмам, як іркуцкі беларус Алег Рудакоў: «Першае і галоўнае — мы сабраліся разам і мусім усьвядоміць, што мо хопіць жаліцца на нейкія цяжкасьці. Мы ў Іркуцку ня маем падтрымкі ні ўладаў Беларусі, ні ўладаў Іркуцку, тым ня менш мы жывём і дзейнічаем. Проста трэба быць пасіянарнай асобай, прысьвяціць і ахвяраваць частку свайго жыцьця агульнай справе».

Вынікам Шостага зьезду беларусаў сьвету сталася прыняцьцё шэрагу рэзалюцыяў і зваротаў да ўладаў Беларусі, у тым ліку — аб захаваньні гісторыка-культурнай спадчыны, беларускай мовы, аб законе ў абароне беларусаў замежжа, а таксама аб вызваленьні палітычных вязьняў. Аднак невядома, ці будуць гэтыя дакумэнты ўспрынятыя афіцыйнымі ўладамі краіны, кажа дэлегат зьезду Лявон Баршчэўскі: «Беларускае грамадзтва і ўлады жывуць у паралельных прасторах і плоскасьцях. І тое, што сюды прыйшоў міністар культуры сказаць правільныя рэчы, то гэта ніяк не закранае тыя праблемы, якія насамрэч існуюць. А менавіта — сытуацыя ўнутранай асыміляцыі беларусаў. Калі тут будуць зьнікаць асновы беларускай культуры і беларуская мова, то як яны могуць быць захаваныя ў дыяспары? І гэта праблема. Яна найважнейшая, і зьезд ня можа дапамагчы яе вырашыць. Галоўнае з усяго — наколькі хто-небудзь з уладаў прыслухаецца да таго, што дэлегаты зьезду скажуць».

Сёмы зьезд беларусаў сьвету, паводле традыцыі, мае адбыцца ў Менску праз чатыры гады.

**Галіна Абакунчык**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# ПЫТАННІ «НАРОДНАГА РЭФЕРЭНДУМУ» СФАРМУЛЮЮЦЬ УВОСЕНЬ

**Пытанні, якія можна вынесці на абмеркаванне «Народнага рэферэндуму», будуць апублікаваныя ў сярэдзіне верасня, паведаміў БелаПАН намеснік старшыні кампаніі «Гавары праўду!» Андрэй Дзмітрыеў.**
**Нагадаем, ініцыятарамі "Народнага рэферэндуму" выступілі кампанія "Гавары праўду!", Рух "За Свабоду" і Партыя БНФ.**

"За два месяцы мы аб'ехалі 13 гарадоў, у якіх сустрэліся і пагутарылі прыкладна з тысяччу чалавек. У планах — да канца лета аб'ехаць яшчэ сем гарадоў", — паведаміў Дзмітрыеў. Паводле яго слоў, ужо бачныя тэмы, якія "людзей па-сапраўднаму хвалююць".

Сярод такіх пытанняў Дзмітрыеў вылучыў тры. Па-першае, гэта пытанне якасці і даступнасці медыцынскага абслугоўвання. Па-другое, магчымасць нармальна працаваць і зарабляць грошы. "Людзі кажуць, што эканамічныя свабоды і ініцыятывы заціснуты, што дзяржава думае не пра тое, каб дапамагчы ім зарабіць, а пра механізм выціскання грошай", — сказаў палітык.

Па-трэцяе, гэта пытанне непадкантрольнасці ўладаў. "На думку людзей, чыноўнікі ўспрымаюць сваю працу як прыступку да лепшай, яны імкнуцца паказаць сябе добрымі больш высокаму кіраўніцтву ў Мінску, а не клапоцяцца пра развіццё рэгіёнаў і іх інфраструктуры. Людзі дастаткова выразна называюць такіх прадстаўнікоў улады дачаснікамі", — зазначыў Дзмітрыеў.

3 палітычных пытанняў, якія, на думку людзей, могуць быць вынесены на "Народны рэферэндум", Дзмітрыеў назваў абмежаванне тэрмінаў прэзідэнцтва і вяртанне да рэальных паўнамоцтваў парламента і незалежнасці выбарчай сістэмы. Праўда, зазначыў ён, гэтыя пытанні больш хвалююць актывістаў дэмакратычных арганізацый.

Паводле слоў намесніка старшыні руху "За Свабоду" Юрыя Губарэвіча, апошнім часам людзі сталі больш адкрыта ісці на кантакт з апазіцыяй. "Калі раней да прадстаўнікоў апазіцыі простыя людзі ставіліся з асцярогай, то зараз бачаць у іх тых, хто гатоў узнімаць пытанні, што іх хвалююць. Так што, лічу, перспектывы ў "Народнага рэферэндуму" неблагія", — сказаў ён.

**Прэс-служба**
**Руху "За свабоду!"**

ФІНАНСАВЫЯ ПРАБЛЕМЫ

# «ДЭВАЛЬВАЦЫЯ РУБЛЯ Ў МЕЖАХ 10% НЕПАЗЬБЕЖНАЯ»

**9 ліпеня курс даляра на Беларускай валютна-фондавай біржы абнавіў гістарычны максімум**

Радые Свабода запыталася ў эканамістаў, ці есьць прычыны чакаць аслаблення беларускага рубля?

Эксперт Беларускага эканамічнага дасьледча-адукацыйнага цэнтру Зьміцер Крук лічыць, што на стан рубля ўплываюць некалькі тэндэнцый:

— Перадусім гэта пагаршэньне сытуацыі на зьнешніх рынках. Сальда замежнага гандлю — з дэфіцытам. Пагоршылася каньюнктура на расейскім рынку, бо запаволіліся тэмпы росту ў Расеі. І гэта нэгатыўна ўплывае на беларускі экспарт. Другі чыньнік — унутраная эканамічная палітыка. Мне яна нагадвае палітыку ў першай палове 2009 году. І хоць попыт ня рос, адбываўся рост выпуску прадукцыі. Так і цяпер. Гэта вядзе да павялічэньня зьнешнегандлевага дэфіцыту і росту напругі на валютным рынку.

Эканаміст Сяргей Чалы дадае яшчэ адзін чыньнік — мадэрнізацыя беларускай прамысловасьці, якая вядзе да росту інвэстыцыйнага імпарту (1 млрд даляраў за першыя пяць месяцаў). А гэта аказвае ціск на бягучы рахунак плацежнага балянсу.

Прагнозы экспэртаў не апакаліптычныя, аднак і ня надта суцяшальныя. Зьміцер Крук лічыць:

— Нацбанк будзе максымальна стрымліваць аслабленьне рубля. Аднак, з улікам аслабленьня расейскага рубля, дэвальвацыя беларускага рубля ў межах 10% непазьбежная.

З ім згодны Сяргей Чалы:

— Для эканомікі было б карысна расьцягнутае ў часе аслабленьне беларускага рубля. Але Нацбанк баіцца, і цалкам справядліва, што гэта прывядзе да панічных настрояў сярод насельніцтва. Таму да канца году аслабленьне рубля складзе 10–15% ад цяперашняга ўзроўню. І гэта прыкладна супадае з высновай МВФ наконт таго, наколькі абменны курс рубля завышаны адносна свайго раўнаважнага значэньня.

Нагадаем, што Міжнародны валютны фонд у справаздачы пра стан беларускай эканомікі прыйшоў да высновы, што курс рубля завышаны на 11%.

9 ліпеня курс даляра на Беларускай валютна-фондавай біржы абнавіў гістарычны максімум. За 1 USD давалі 8860 рублёў.

**gazetaby.com/cont/art.php**

БЕЛАРУСЬ-КІТАЙ

# О ЧЕМ УМОЛЧАЛИ ЛУКАШЕНКО И ТОЗИК

**«Мы когда-то мечтали о том, чтобы достичь товарооборота в 500 миллионов долларов между двумя государствами. Сегодня мы уже вертимся возле цифры 3 миллиарда. Это огромный прогресс», – заявил Александр Лукашенко в интервью агентству Синьхуа.**

Вот только, если разложить всё по полочкам, вырисовывается отнюдь не блестящая для Беларуси картина. Предыдущий визит Лукашенко в Пекин состоялся в 2010-м. Вот и посмотрим на внешнеторговую динамику за последние три года.

Экспорт Беларуси в КНР
2010 г. – 475,8 млн долларов
2011 г. – 636,6 млн долларов
2012 г. – 433,6 млн долларов

То бишь по итогам прошлого года наш экспорт в Китай рухнул почти в полтора раза. Более того, он не дотянул даже до показателей двухлетней давности.

Экспорт КНР в Беларусь
2010 – 1,683,4 млн долларов
2011 – 2193,9 млн долларов
2012 – 2367,9 млн долларов

Зато китайский экспорт в нашу страну уверенно растет, а с ним и отрицательное для Беларуси сальдо в торговле с Поднебесной. Почему это происходит, говорилось уже не раз. Так что, просто констатируем: фокус с товарооборотом кроется в том, что Беларусь стала еще одним рынком для китайской продукции. Не Бог весть какое достижение. А если учесть, что, например, качество оборудования, поставляемого китайцами, вызывало нарекания даже у Сергея Сидорского в бытность его премьер-министром, можно констатировать, наша страна больше теряет, чем выигрывает, от такого «стратегического партнерства».

Кстати, как сообщает БЕЛТА, вице-премьер Анатолий Тозик заявил, что во время нынешнего официального визита Александра Лукашенко в КНР планируется заключить контрактов и соглашений на 1,5 миллиарда долларов. Сумма даже по меркам Беларуси не ахти, а для Китая вообще смешная. Кстати, во время предыдущего визита Лукашенко в Пекин были завизированы проекты на 3,5 миллиарда долларов.

Но дело даже не в том, что на этот раз сумма оказалась в два с лишним раза меньше. Проблема в другом.

Министр промышленности Беларуси Дмитрий Катеринич подробно отчитался в Пекине перед журналистами о том, что можно записать в актив нашей экономике. Накануне визита заключен договор на поставку карьерной техники на 9 миллионов долларов. Планируется подписать контракт на поставку в Китай БелАЗов и запасных частей на 12 миллионов долларов. Уже есть соглашения на поставку 350 энергонасыщенных тракторов, различных комбайнов. Общую сумму Катеринич на тот момент оценил в 70 миллионов долларов.

Понятно, что в ходе визита будут подписаны и другие контракты. Но на основе сказанного можно прогнозировать, что белорусы продадут китайцам своей продукции миллионов этак на 200 плюс-минус. А львиная доля от 1,5 миллиардов – это то, что КНР втюхает нам, еще больше увеличив отрицательное внешнеторговое сальдо РБ. Но об этом и Лукашенко, и Тозик предпочли умолчать.

А победные реляции об «огромном прогрессе» смахивают на «утку по-пекински». «Утку» не в кулинарном, а в журналистском смысле слова. На деле же всё идет к тому, что очередной «китайский прорыв» превратится в провал.

**Вадим Ливнев**

НАША ЎЛАДА

# «СУКІН СЫН», УЗГАДАВАНЫ КРАМЛЁМ

**19 гадоў таму — 20 ліпеня 1994-га — учорашні дырэктар саўгасу «Гарадзец» на Шклоўшчыне і дэпутат Вярхоўнага Савету Аляксандар Лукашэнка пад бел-чырвона-белым сьцягам і на трыбуне з «Пагоняй» прынёс прысягу ў якасьці першага прэзыдэнта незалежнай Беларусі.**

Амаль два дзясяткі гадоў на чале дзяржавы зрабілі Лукашэнку палітычным доўгажыхаром. Што дазваляе Лукашэнку так доўга кіраваць краінай, ня гледзячы на непрыхаванае жаданьне вярнуцца ў «сьветлае савецкае мінулае»? Меркаваньне публіцыста, палітоляга Аляксандра Класкоўскага: «Шмат фактараў можна назваць. Канечне, нельга адмовіць Лукашэнку ў харызьме, у таленавітым папулізьме. Але калі усё груба зводзіць да двух фактараў, я б назваў, па-першае, нямераную падтрымку Расеі, якая ўвальвае ў рэжым проста шалёныя грошы. Пры тым, што паміж Масквой і Менскам пэрыядычны здараюцца канфлікты, гандлёвыя і інфармацыйныя войны, але ў рэшце рэшт усё адбываецца паводле аднаго прынцыпу — „няхай сукін сын, але наш сукін сын". Гэты прынцып працягвае дзейнічаць і цяпер. І я думаю, што Пуцін дзеля стварэньня эфэмернага Эўразійскага саюзу выдаткуе для Лукашэнкі чарговую грашовую пайку — ужо фактычна пад прэзыдэнцкія выбары 2015 года. А другі фактар палягае ў тым, што ў Беларусі практычна падчыстую выпаленае палітычнае поле. Харызма-не харызма, але калі дубінкай па галаве апазыцыя пастаянна атрымлівае, абывацель застрашаны, то рэвалюцыю тут, груба кажучы, не распачнеш».

10 ліпеня 1994 году Аляксандар Лукашэнка выйграў прэзыдэнцкія выбары ў другім туры. У фінале «барацьбіт з карупцыяй» без асаблівых праблемаў адолеў тагачаснага прэм'ер-міністра краіны Вячаслава Кебіча. Празь 10 дзён у Авальнай залі парлямэнту адбылася ўрачыстая інаўгурацыя першага прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Як аказалася, пакуль што і адзінага.

Выкарыстоўваць высокае становішча ў карысьлівых мэтах Лукашэнка пачаў літаральна зь першых гадоў прэзыдэнцтва. Шэраг ініцыяваных ім рэфэрэндумаў быў умела абгорнуты такім чынам, што гэта не ён сам захацеў, а «народ» даў яму карт-блянш выбірацца на вышэйшую пасаду неабмежаваную колькасьць разоў, дазволіў яму зьмяняць гістарычныя сымбалі на савецкія, ня пярэчыў, каб загнаць у моўную рэзэрвацыю беларускую мову.

Далей — больш, але ўжо без асаблівай траты часу на парады з народам. Практычна поўнае вынішчэньне іншадумства, абяскроўліваньне незалежных СМІ і трэцяга сэктару, тэрміны зьняволеньня для апанэнтаў, загадкавыя зьнікненьні і сьмерці вядомых палітыкаў, грамадзкіх дзеячаў, журналістаў.

**Ігар Карней**

РОСТ КОШТАЎ

# УСЛЕД ЗА ПРАДУКТАМІ МОЖА ПАДАРАЖЭЦЬ БЕНЗІН І КВАРТПЛАТА

**У Беларусі з12 ліпеня даражэюць цукар, хлеб і алкаголь. Эксперт лічыць, што гэта вынік стрыманай ўручную інфляцыі і не апошняе павышэнне коштаў у гэтым годзе.**

Гранічныя максімальныя розничныя цэны на якія рэгулююцца віды цукру-пяску белага без дадаткаўпавышаюцца ў сярэднім на 5%. Ўстаноўлены гранічныя максімальныя розничныя цэны на цукар-пясок белы без дабавак вагавы, упакаваны ў мяшкі ад 25 да 50 кг, у 7900 рублёў за 1 кг і на цукар-пясок белы без дабавак, расфасаваны ў спажывецкую ўпакоўку ад 500 г да 1 кг, - у 8400 рублёў за 1 кг.

Як пракаментавалі ў Міністэрстве эканомікі, рашэнне аб павышэнні цэн прынята «з улікам прапаноў канцэрна« Белдзяржхарчпрам »для стабілізацыі фінансавага стану цукраперапрацоўчых арганізацый". Папярэдні раз цэны на цукар падымаліся 24 чэрвеня мінулага года - да 8000 рублёў за 1 кг.

Гранічныя максімальныя адпускныя цэны на якія рэгулюецца групы хлеба і батонаў павышаюцца да 10%. Гаворка ідзе пра хлеб жытні і жытна-пшанічны, булачных вырабах з пшанічнай мукі з утрыманнем цукру і тлушчаў у суме не вышэй за 14%. Дадзенае рашэнне прынята з улікам кампенсацыі падаражання сыравіны, адзначылі ў Мінэканоміі.

Гранічныя мінімальныя цэны на алкагольную прадукцыю крэпасцю звыш 28% павышаюцца «у сувязі з ростам ставак акцызаў». Лімітавая мінімальная адпускная цана на алкаголь мацункам 40% за 0,5 л павялічана на 25,6% да 27 тыс. рублёў, лімітавая мінімальная раздробны кошт (з ПДВ) - на 28,4% да 38 тыс. рублёў. Лімітавая мінімальная адпускная цана на імпартны алкаголь крэпасцю 40% павышана на 25,6% да 54 тыс. рублёў.

Як адзначыў у каментары для Naviny.by эканамічны эксперт «Ліберальнага клуба» Антон Балточка, чэрвеньскі паказчыкінфляцыізаўсёў0,3% на фоне агульнай коштавай карціны можа казаць пра тое, што«адбываецца стрымліванне коштаў, каб патрапіць у прагнозны паказчык 12% інфляцыі за год ".

«Як толькі паставілі інфляцыю 0,3% за чэрвень, ўбачылі, што ёсць невялікі задзел для таго, каб карэктаваць кошты - павялічыць іх на некаторыя тавары», - адзначыў эксперт.

Пры гэтым Антон Балточка лічыць, што ў рэжыме ручнога кіравання ўлады не ўкладуцца ў прагнозныя 12% інфляцыі. На думку эксперта, па выніках года рост цэн можа скласці каля 15%. За першае паўгоддзе інфляцыя ўжо складае 7%: у студзені - 3%, у лютым - 1,2%, у сакавіку - 1,1%, у красавіку - 0,5%, у маі - 0,7%, у чэрвені - 0,3%.

Прадукты харчавання сталі першай ластаўкай у чарадзе павелічэння цэн, таму што менавіта на гэтыя тавары яны даўно не падымаліся, адзначае Болточко. Далей, лічыць эканаміст, варта чакаць павелічэння коштаў на паслугі ЖКГ, якія часта падымаюцца летам, так як для насельніцтва гэта менш прыкметна, чым зімой. Акрамя таго, рост даходаў насельніцтва - гэта таксама фармальны нагода для росту тарыфаў.

«Улічваючы, што ўзровень тарыфаў на паслугі ЖКГ аказвае істотны ўплыў на ўзровень жыцця насельніцтва, іх павышэнне плануецца выраблять паэтапна, у ўвязцы з ростам даходаў насельніцтва і адначасовым аказаннем найменш абароненым яго групам дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамогі для аплаты гэтых паслуг», - заявіў у інтэрв'ю «Народнай газеце» міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркіАндрэй Шорац.

Не выключана, лічыць Антон Болточко, што паднімуцца цэны і на паліва

**Алёна Спасюк**

ТАКОЕ МЕСЦА

# БЕЛАРУСЬ СТАЛА АУТСАЙДЕРОМ СНГ ПО ЭКОНОМИЧЕСКОМУ РОСТУ

**В Беларуси самая высокая инфляция и один из самых низких темпов роста ВВП.**

По данным Статкомитета СНГ, Беларусь оказалась на предпоследнем месте по росту ВВП. За январь-май наша страна валовой внутренний продукт увеличила к аналогичному периоду прошлого года лишь на 1,5%.

Хуже сработала лишь экономика Украины, которая произвела валового продукта даже на 1,1% меньше прошлогоднего показателя. Примерно на одном уровне с Беларусью находится наш главный экономический партнер — Россия: лишь 1,6% прибавки ВВП.

Активнее всего вал нарастил Казахстан — плюс 8,4%, а также Армения (7,5%) и Таджикистан (7,3%).

Индекс потребительских цен, сложившийся за первые 5 месяцев 2013 года на уровне 21,7%, трехкратно превышает средний по СНГ. У других стран он колеблется от 2 до 7%. Только Украине удалось получить инфляционный показатель меньше уровня прошлогоднего периода — на 0,5%.

Несмотря на серьезные экономические проблемы, реальные располагаемые денежные доходы белорусов резко поползли вверх. За январь-май рост составил 20,6%. В России же этот показатель остановился на уровне плюс 4,5%.

**http://news.mail.ru/inworld/belorussia/economics/14039359/?frommail=1**

ПРАБЛЕМЫ ВІЦЕБШЧЫНЫ

# ФАРМІРУЕЦЦА ПІРАМІДА УЗАЕМНЫХ ФІНАНСАВЫХ АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВАЎ

**На думку прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Мясніковіча, у Віцебскай вобласці фарміруецца піраміда узаемных фінансавых абавязацельстваў суб'ектаў гаспадарання, якая можа паралізаваць эканомікі рэгіёну.**

Як паведаміла прэс-служба Саўміна, 17 ліпеня члены Прэзідыума Савета міністраў у поўным складзе выехалі ў Віцебск, дзе разгледзелі пытанне выканання Віцебскім аблвыканкамам прагнозных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця. Пры гэтым высокі сход больш быў падобным на экстраную нараду з мэтай пошуку магчымых шляхоў выхаду з складанай эканамічнай сітуацыі, у якой апынуўся рэгіён. І дадзеныя аб тым, што па выніках 5 месяцаў 2013 Віцебская вобласць не выканала дзве трацiны асноўных даведзеных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця, толькі меншае з пытанняў.

Паводле дадзеных прэм'ер-міністра, сёння ў рэгіёне больш за 40% усіх арганізацый знаходзіцца ў няўстойлівым фінансавым становішчы.

«Гэта вельмі трывожная сітуацыя», - сказаў Міхаіл Мясніковіч.

На думку прэм'ер-міністра, такая сітуацыя склалася па прычыне непісьменнай фінансавай палітыкі, якая праводзіцца ў Віцебскай вобласці на месцах.

Так, напрыклад, у Віцебскай вобласці атрымала шырокае распаўсюджванне практыка узаемных фінансавых абавязацельстваў, якія растуць як снежны ком, пазбаўляючы арганізацыі абаротных сродкаў і перспектыў развіцця. У першую чаргу гэта тычыцца сельскагаспадарчых арганізацый, дзе запазычанасць вытворцаў пад будучыя пастаўкі малака з тэрмінам больш за год склала 113 мільярдаў рублёў, што складае 56% ад сумы авансавых запазычанасцяў па краіне.

«Вымалёўваецца своеасаблівая піраміда ўзаемных даўгавых абавязацельстваў, якія, калі не прыняць адпаведныя меры, могуць паралізаваць развіццё прадпрыемстваў і вобласці ў цэлым», - заявіўМіхаіл Мясніковіч.

Таксама па дадзеных ўрада, існуе праблемная запазычанасць па крэдытах, выдадзеных банкамі Віцебскай вобласці. Так за студзень-май 2013 года даўгі павялічыліся ў 2 разы і склалі 241млрд. рублёў. Ужо цяпер Віцебскі аблвыканкам горш за іншыя вобласці выконвае выдадзеныя раней гарантыі - яго абавязак перад банкамі складае больш за 100 мільярдаў рублёў.

У сувязі з гэтым прэм'ер-міністр чакае ад губернатара, міністра эканомікі і іншых службовых асоб канкрэтных прапаноў па лакалізацыі пагроз, якія нясе рост пратэрмінаванай запазычанасці і пазыковай нагрузкі асабліва для сельскагаспадарчых вытвор-

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 29.07.2013 у 20.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.